

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*


# наша слова

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 30 (665) 4 ЖНІЎНЯ 2004 г.





# АЛЕГУ ТРУСАВУ - 50

## *Вельміпаважаны Алег Анатолевіч!*

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" шчыра віншуе Вас, свайго Старшыню, грамадскага і палітычнага дзеяча, навукоўца і педагога, – з 50-гадовым юбілеем. Нам, аднадумцам і паплечнікам, прыемна, што поўню жыцця Вы сустракаеце ў росквіце шматграннага таленту, Богам дадзенага і працай памножанага, з важкім набыткам даследчыка, багатым жыццёвым досведам.

Вы заявілі пра сябе як прадбачлівы палітык, сур'ёзны навуковец у галіне археалогіі, архітэктуры і гісторыі Беларусі. Вашаму пяру належаць больш за паўтысячы публікацыяў, у тым ліку шэсць манаграфій. А такія кнігі як "Манументальнае дойлідства Беларусі XII – XVIII стст. Гісторыя будаўнічай тэхнікі", "Беларуская паліваная кераміка", "Старонкі мураванай кнігі", а таксама камплекты паштовак "Беларуская кафля" і "Мірскі замак" карыстаюцца нязменным попытам і запатрабаваныя часам.

Сімвалічна, што "залатая" дата Вашага нараджэння супала з 15-мі ўгодкамі Таварыства, якое Вы ачольваеце з 1999 года. Цягам гэтага часу наша грамадскае аб'яднанне імкліва развіваецца. Дзякуючы Вашаму энтузіязму, ініцыятыўнасці, разважлівасці, Таварыства беларускай мовы набыло папулярнасць і вядомасць не толькі ў краіне, але і далёка за яе межамі. Нас ведаюць як сур'ёзную праваабарончую арганізацыю, якая адстойвае лінгвістычныя правы грамадзян, дамагаецца рэальнага статусу беларускай мовы як дзяржаўнай і тым самым бароніць незалежнасць краіны.

Растуць шэрагі прыхільнікаў роднага слова. Сярод новых сяброў шмат моладзі, якая актыўна далучаецца да працы ў ТБМ. Яны цягнуцца да святла, якое выпраменьвае кіраўнік арганізацыі. Вашая эрудыцыя ў розных галінах навукі бярэ ў палон маладыя душы, адкрывае ім вочы на жыццё, робіць іх беларусамі. Вы для іх – узор грамадзяніна з прынцыповай жыццёвай пазіцыяй.

Верым у тое, што разам з Вамі мы яшчэ шмат карысці прынясём нашай роднай Беларусі. Дай Божа Вам моцы на наступнае паўстагоддзе. І хай здзейсніцца тое, дзеля чаго жывем і што баронім.



Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



17 ліпеня, 2004

**Яго Міласьці спадару Алегу Трусаву**
**Старшыні "Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны"**
**вул. Румянцава, 13,**
**220005, Менск, Беларусь**

Высокапаважаныя спадар Старшыня, Кіраўніцтва й Сябры "Таварыства Беларускае Мовы", сардэчна вітаем вас з 15-мі ўгодкамі дзейнасьці ТБМ, якія прыпадаюць на 27 чэрвеня, 2004, ды адначасна вітаем вас і з залатым юбілеем – 50-мі ўгодкамі жыцьця Кіраўніка ТБМ, шаноўнага спадара Алега Трусава. Гэты слаўны юбілей парыпадае на 7-га жніўня, 2004.

Цешымся, што старшыня ТБМ такі яшчэ малады, у сіле веку, бо як перад Старшынём, гэтак і перад усім Таварыствам Беларускае Мовы стаіць, наканаванае ім гісторыяй, заданьне спрычыняць, каб Беларусь загаварыла па-беларуску; спрычыняць каб Беларусь сталася, як усе іншыя краіны сьвету, нармальнай краінай. Нашыя суседзі – Польшча гаворыць па-польску, Летува – па-лятувіску, Латвія – па-латыску, Расея – па расейску.

Таму-ж усе яны й незалежныя. У ніводнай з пералічаных краінаў іхнія ўрады не зьнішчаюць іхняе мовы, іхняе культуры, як гэта па сяньня дзеецца ў Беларусі, а гэта таму, што Беларусь выраклася свае роднае мовы.

Гэтае нязьмерна цяжкае заданьне можа быць асягнутае толькі і толькі, працай Таварыства Беларускае Мовы, працай кожнага яго сябры, а іх жа дзякаваць Богу, цяпер шмат. Калі кожны сябра ТБМ зробіць высілак і будзе заўсёды й скрозь у Беларусі гаварыць па-беларуску, тады ТБМ дасьць прыклад іншым добрым беларусам, якія ўмеюць гаварыць па-беларуску, толькі саромяцца свае роднае мовы, саромяцца гаварыць ёю "на людзях"...

Жадаем Кіраўніцтву й усім сябрам ТБМ добрага здароўя, ясноты дум і сілы духу.

А паважанаму Старшыні ТБМ, сп. Алегу Трусаву жадаем асілкавых здольнасьцяў павадыра, ды ў здароўі й шчасьці пражыць і другую пяцьдзесятку.

СТО ГОД !

За беларусаў Канады, якім неабыякавы ёсць лёс беларускае мовы, лёс Беларусі
**Др. Раіса Жук-Грышкевіч, былы Старшыня ККБК.**
Бэры, Канада.

**Алег Трусаў (нар. 7.08.1954 г.) паходзіць з мсціслаўскай шляхты. Кандыдат гістарычных навук (1981). Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў БНФ, БСДГ і ТБМ імя Ф. Скарыны. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання, намеснікам старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Прымаў удзел у абвяшчэнні дзяржаўнага суверэнітэту і поўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь, адзін з распрацоўшчыкаў афіцыйнай выявы дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь "Пагоня", бел-чырвона-белага дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і наверша да яго.**

**А. Трусаў - шырока вядомы даследчык беларускай архітэктуры і гісторыі матэрыяльнай культуры Сярэднявечча і Новага часу, па гэтай тэматыцы напісаў больш за 10 навуковых кніг і брашураў, больш 500 артыкулаў. Распрацаваў методыку архітэктурна-археалагічнага вывучэння манументальных помнікаў Беларусі.**

**З 1995 г. дацэнт кафедры этналогіі і музеязнаўства, дэкан факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры. Сябар Цэнтральнага археалагічнага камітэта Рэспублікі Беларусь (1996). Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры (1998).**

**Прэзідэнт Таварыства "Беларусь-Іспанія" (1992).**

**Першы намеснік старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з 1995 года.**

**Старшыня ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" з 1999 года.**

# Навуковец і грамадска-палітычны дзеяч

Адным з кірункаў маёй навуковай дзейнасці з'яўляецца напісанне навуковых біяграфій, біяграм, што друкуюцца ў "Беларускай гістарычнай энцыклапедыі", "Энцыклапедыі



*Алег Трусаў. 1973 г.*

гісторыі Беларусі", "Славутых імёнах Бацькаўшчыны" і іншых выданнях. Гэта біяграфічныя нарысы пра дзеячаў мінуўшчыны са звесткамі пра іх дзейнасць, эпоху, асобныя рысы характару і г.д.

У апошні час надараецца пісаць і пра нашых сучаснікаў з нагоды іх юбілеяў. З нагоды 50-гадовага юбілею нашага сучасніка, вядомага беларускага археолага, гісторыка архітэктуры, публіцыста і грамадска-палітычнага дзеяча Алега Анатолевіча Трусава і пішу гэтыя радкі, тым больш, што быў рэцэнзентам некаторых яго выданняў.

Алег Трусаў нарадзіўся 7 жніўня 1954 г. у горадзе Мсціславе, былой сталіцы Мсціслаўскага княства, а потым Мсціслаўскага ваяводства, што, несумненна, паўплывала потым на яго захапленне гісторыяй і перш за ўсё гісторыяй Беларусі. Прабабуля і бабуля маленькага Алега вучылі яго беларускай мове (у тагачасным рускім асяроддзі), перадавалі яму сямейныя і нацыянальныя традыцыі. Здольны юнак пасля заканчэння школы паступіў на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1976 г.

Алег Трусаў працаваў у Беларускім рэстаўрацыйным праектным інстытуце супрацоўнікам, а з 1978 г. начальнікам археалагічнага аддзела.

Адачасова вучыўся ў аспірантуры і ў 1981 г. абараніў дысертацыю, атрымаўшы навуковую ступень кандыдата гістарычных навук. Тэма яго кандыдацкай дысертацыі "Археалагічнае вывучэнне помнікаў манументальнага дойлідства XI-XУII ст. ст. на тэрыторыі Беларусі (метадычныя даследаванні)". У час працы ў Беларускім рэстаўрацыйным праектным інстытуце ён вывучаў помнікі манументальнага дойлідства, гісторыю матэрыяльнай культуры Беларусі XI-XУIII стагоддзяў, гісторыю будаўнічай тэхнікі, эвалюцыю асноўных тыпаў муровак і будаўнічых мтэрыялаў XI - XУIII ст.ст.

Як у кожнага навукоўца ёсць нейкі любімы прадмет вывучэння, так і ў Алега Трусава такім любімым аб'ектам з'яўляецца кафля. Алег Трусаў праводзіў раскопкі старажытных замкаў у Горадні, Заслаўі, Крэве, Лідзе, Мазыры, Міры, а таксама Барысаглебскай царквы ў Наваградку, Благавешчанскай царквы ў Віцебску, Каложскай царквы ў Горадні, Магілёўскай ратушы, помнікаў архітэктуры Мсціслава XУII-XУIII ст.ст. і іншых. Алег Анатолевіч Трусаў распрацаваў методыку архітэктурна-археалагічнага вывучэння манументальных помнікаў Беларусі XI-XУIII ст.ст. Па гэтай тэматыцы было зроблена шмат публікацый, часткова ў сааўтарстве. Найбольш значныя з гэтых публікацый 80-х – 90-х гадах мінулага стагоддзя: "Помнікі старажытнага Мсціслава" Мінск, 1985 (разам з Р. В. Баравым); "Памятники монументального зодчества Белоруссии XI-XУIIвв: Архитектурно-археологический анализ." Мн., 1988; "Беларуская кафля." Мн., 1989 (аўтары – В.Е. Собаль, М. А. Ткачоў, А.А. Трусаў і У.В. Угрыновіч); "Старонкі мураванай кнігі: Манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму." Мн., 1990; "Старадаўніх муроў адраджэнне: мінулае і сучаснасць Лідскага замка." Мн., 1990; "Старажытны Мсціслаў." Мн., 1992 (у сааўтарстве з М.А. Ткачовым); "Стары замак у Гродне XI-XУIII ст.ст." Мн., 1993 (разам з В.Е. Собалем і Н.І. Здановіч); "Беларускае кафлярства." Мн., 1993; "Беларуская паліваная кераміка XI-XУIII ст.ст." (сумесна з Н.І. Здановіч); "Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка." Мн., 1994 (у сааўтарстве з Н.І. Здановіч і А. А. Краўцэвічам). У 2001 г. Алег Анатолевіч Трусаў апублікаваў манаграфію "Манументальнае дойлідства Беларусі XI – XУIII ст.ст. Гісторыя будаўнічай тэхнікі." Мн., 2001.



*Алег Трусаў са студэнтамі і выкладчыкамі БДУК у Гальшанах*

Алег Трусаў быў адным з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага грамадска-палітычнага адраджэнцкага руху другой паловы 80-х гадоў XX стагоддзя. 19 кастрычніка 1988 г. на сходзе беларускіх патрыётаў-адраджэнцаў ён быў абраны ў склад аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", а ў чэрвені 1989 г. на ўстаноўчым з'ездзе БНФ у Вільні ў склад Сойму БНФ.

З гэтага часу пачынаецца і актыўная палітычная дзейнасць Алега Трусава. На пачатку 1990 г. А. Трусаў у Менску быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання. У сакавіку 1990 г. ён быў адным з каардынатараў дэпутацкай групы "Дэмакратычная плынь" у Вярхоўным Савеце, а потым увайшоў у склад апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі на чале з Зянонам Пазьняком, актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы законапраектаў, накіраваных на ўстанаўленне незалежнасці Беларусі, падтрымкі і абароны беларускай культуры і інш. Сваю дэпутацкую дзейнасць Алег Анатолевіч Трусаў працягваў да 1996 г. У гэты час ён быў адным з удзельнікаў падрыхтоўкі і паправак да тэксту Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР 1990 г., настойваючы разам з апазіцыяй БНФ на выкрэсліванне ўпамінання ў Дэкларацыі пра "Саюз суверэнных сацыялістычных дзяржаў", у якім знаходзілася б Беларусь. Быў вельмі чынным пры абвяшчэнні незалежнасці Беларусі у 1991 г.

У гэты ж перыяд (1991-1996 гг.) Алег Трусаў быў абраны намеснікам старшыні камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (старшынём камісіі быў абраны дэпутат Ніл Гілевіч). На гэтай сваёй пасадзе А. Трусаў шмат зрабіў для развіцця названых кірункаў адраджэння беларускасці.

Менавіта Алег Анатолевіч займаўся справай прыняцця новага дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь – старажытнай беларуска-літоўскай Пагоні, вёў перамовы з дэлегацыяй літоўскага сойму аб адрозненнях выявы беларускай Пагоні і Літоўскага Віцісу, нават збіраў нарады па прыняцці новай вайсковай і міліцэйскай формы замест савецкай, сцягоў і г.д. Асноўным жа яго заняткам была падрыхтоўка законаў у галіне адукацыі, культуры, музейнай справы і інш. Не заседжваўся ў кабінеце, часта сустракаўся з выбаршчыкамі, распавядаў пра заканадаўчую дзейнасць.



*Алег Трусаў у адноўленай Супрасльскай царкве XIV ст.*




*Кніга Алега Трусава "Манументальнае дойлідства Беларусі XI-XVIII стагоддзяў"*





Леанід Лыч

# Беларусізацыя – галоўнае звяно дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Плённа працаваў на ніве беларускай гістарычнай навукі выпускнік Маскоўскага універсітэта Уладзімір Пічэта, які ў 1921 г. стаў першым рэктарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Сваімі даследаваннямі ён у многім паспрыяў правільнаму вызначэнню ролі беларускага фактару ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У 1924 г. выйшла з друку першая частка яго кнігі "Гісторыя Беларусі" (М.; Л.). Для вырашэння практычных задач беларусізацыі выключна важную ролю адыграла яго праца "Белоруский язык, как фактор национально-культурный" (1924). У ёй пераканаўча паказана дзяржаўным дзеячам практычная мэтазгоднасць увядзення роднай мовы ў службовае справаводства, дзе яе па віне ўладаў Рэчы Паспалітай не выкарыстоўвалі ўжо з 1696 г.: "У міністэрствах, канцылярыях, судах адбываецца сталая словатворчасць. З гэтага боку заканадаўчыя акты, справаводства судовых і адміністрацыйных устаноў маюць велізарнае значэнне для развіцця мовы. Тыя народы, якія жылі нядоўга ўласным палітычным жыццём, дзякуючы чаму справаводства на нацыянальнай мове не магло атрымаць вялікага развіцця, знаходзяцца ў дачыненні да развіцця мовы ў менш спрыяльных варунках у параўнанні з тымі, хто меў уласнае нацыянальнае справаводства". На яго погляд, пісцы службовых канцылярый *"такія ж стваральнікі мовы, як пісьменнікі, навукоўцы і прадстаўнікі іншых ліберальных прафесій... Ва ўрадавай канцылярыі, у зале суда адбывалася непрыкметна, але сталая творчасць мовы."* Што ў перыяд беларусізацыі не так шмат было праблем і перашкод з увядзеннем беларускай мовы ва ўсе віды службовага справаводства, бясспрэчна, ёсць і заслуга У. Пічэты. Яго слушнай думцы па дадзенай праблеме проста не было альтэрнатывы.

З выкладчыкаў БДУ, якія сваімі даследаваннямі садзейнічалі ўзбагачэнню гістарычнай памяці беларускага народа, варты ўпамінанню Васіль Дружчыц (Друшчыц). Сярод яго твораў, што выйшлі з друку ў першыя гады беларусізацыі, найбольшую каштоўнасць мелі: "Палажэнне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасля Люблінскай уніі". (Працы БДУ. 1925. № 6-7); "Места Менск у канцы ХУ і пачатку ХУІ ст." (Тамсама. 1926. № 12); "Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры" (Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1927).

Гістарычная тэматыка ўладарна прыйшла на старонкі серыйнага навуковага выдання Інбелкульта і Беларускай акадэміі навук "Запіскі аддзела гуманітарных навук" (1927-1930). Камісіі, кафедры і інстытуты Інбелкульта выдалі 6, БАН – 7 кніг. З іх адзначым наступныя: Даўгяла Дз. "Матэрыялы да эканамічнае гісторыі Полацка (ХУІІІ ст.)". Каваленя А. і Шутаў С. "Матэрыялы з да гісторыі Тураўшчыны"; Любаўскі М. "Літва і славяне ў іх узаемаадносінах у XI-XIII сталецці"; Мачульскі В. "Да пытання аб беларускім элеменце ў "Слове аб палку Ігаравым"; Ясінскі А. "Два словы аб волатах. Да праблемы першапачатковага насельніцтва Беларусі".

Незвычайнай папулярнасцю карыстаўся часопіс Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце "Наш край", першы нумар якога выйшаў з друку ў кастрычніку 1925 г. Ім зачытваліся практычна ўсе, ад школькіка да навукоўца бо грамадства выказвала нечуваную да гэтага зацікаўленасць да нацыянальнай гісторыі.

### *7) Вылучэнне беларусаў на кіраўнічыя пасады*

Адным з важных кірункаў палітыкі беларусізацыі прызнавалася ўкамплектаванне адказных пасад у партыйных, савецкіх, прафсаюзных органах, наркаматах і ведамствах асобамі беларускай нацыянальнасці. І гэта быў вельмі правільны падыход, бо лепш за многіх з іх ніхто так глыбока не разумеў галавой і не адчуваў сэрцам велізарнай патрэбы беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Толькі нязначная частка палітыкаў, кіраўнікоў, інтэлігентаў з ліку беларусаў не праяўляла зацікаўленасці ці варожа ставілася да ідэі беларусізацыі. Важна, што шчырыя прыхільнікі яе знаходзіліся і на самых высокіх дзяржаўных пасадах. Добра спрыяў ёй старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў. Яго публічныя выказванні пра ролю нацыянальнай сістэмы народнай адукацыі, беларускай мовы ў лёсе нашай Бацькаўшчыны не састарэлі і па сённяшні дзень, маюць глыбокі тэарэтычны сэнс і вялікую практычную каштоўнасць. Ведаючы, што не ва ўсіх навучальных установах належным чынам шанавалі і выкарыстоўвалі беларускую мову нават у лепшыя гады беларусізацыі, ён праз газету "Савецкая Беларусь" звярнуўся да народа з такімі словамі: ***"Трэба ў школе беларускай паставіць працу так, каб вучань усюды чуў і практычна вывучаў добрую, чыстую беларускую мову"***. Самыя надзённыя пытанні беларусізацыі заўсёды былі ў цэнтры ўвагі старшыні СНК БССР Мікалая Галадзеда, які заняў гэтую высокую пасаду ў траўні 1927 г.

Беларускай нацыянальнай справе па-буйному пашанцавала што ў гады беларусізацыі такія ключавыя пасады, як наркам асветы БССР і прэзідэнт Беларускай акадэміі навук займалі адпаведна Антон Баліцкі і Усевалад Ігнатоўскі. Гэта былі асобы не толькі з багатымі тэарэтычнымі ведамі, практычным досведам, але і высокай грамадзянскай пазіцыі. Названыя асяродкі нацыянальнага жыцця з гонарам вынеслі на сабе галоўны цяжар беларусізацыі і вартыя мець шчырых паслядоўнікаў на сучасным этапе.

За гранічна сціслы тэрмін быў сфармаваны касцяк адданых ідэі беларусізацыі людзей у партыйных органах, хаця ўвесь час пасаду першага сакратара ЦК КП(б)Б займалі асобы не беларускай нацыянальнасці і не мясцовага паходжання. Па лініі ЦК КП(б)Б было прынята нямала пастаноў, накіраваных на актывізацыю дзейнасці партыйных органаў па ажыццяўленні палітыкі беларусізацыі.

Савецкім і партыйным органам давялося нямала папрацаваць над укамплектаваннем нацыянальна-самасвядомымі беларусамі тых участкаў вытворчай і грамадскай дзейнасці, дзе трэба было стала ўступаць у кантакты з людзьмі. У такіх варунках вельмі важна было, каб кіраўнік і валодаў, і карыстаўся беларускай мовай, што абавязкова стане добрым прыкладам для кіраўнікоў ніжэйшых рангаў, шараговых работнікаў. Пазітыўныя зрухі ў гэтым спрэс назіраліся. Станавілася нормай, што беларуская мова не толькі гучала пад час правядзення рознага роду сходаў і нарадаў у працоўных калектывах, але і на саміх вытворчых участках, у міжасобасных кантактах людзей. Як ва ўсіх народаў са здаровым нацыянальным патэнцыялам, і ў беларусаў іх родная мова пачала ўсё ў большых маштабах выконваць асноўныя функцыі ў грамадскім жыцці, зносінах паміж людзьмі.

Такога становучага выніку стала магчыма дасягнуць толькі на аснове ўзважанай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі. Цяжкасцяў жа на гэтым шляху было нямала. На момант пераходу да беларусізацыі дзяржаўнага, партыйнага, прафсаюзнага і камсамольскага апаратаў, усіх звёнаў кіравання наркаматаў і ведамстваў валоданне беларускай мовай (асабліва ў пісьмовай форме) іх работнікамі знаходзілася на крайне нізкім узроўні, бо ніхто з апошніх не меў магчымасці спецыяльна займацца яе вывучэннем, набываючы калісьці прафесію ў рускамоўных навучальных установах. Нельга было лічыць падрыхтаванымі да беларусізацыі службовага справаводства і многіх з тых, хто валодаў толькі навыкамі вуснай беларускай мовы. Адзіным рэальным выйсцем з гэтага становішча было прызнана паўсюднае вывучэнне яе на спецыяльна ўтвораных курсах для работнікаў такіх апаратаў. Вынікі аказаліся даволі суцяшальнымі. Сярод кіраўнічых кадраў, службоўцаў канцылярый нязменна павялічвалася ўдзельная вага асоб, якія былі ў стане весці сваю работу на беларускай мове. Так, калі ў 1925 г. у цэнтральных (рэспубліканскіх) установах толькі 22% агульнай колькасці супрацоўнікаў валодалі беларускай мовай, а ў акруговых і раённых – 36, дык ужо ў 1926 г. адпаведна 54 і 42, у 1927 г. – 80 і 70%. Апошнія дзве лічбы даюць падставы сцвярджаць, што вызначаныя ў 1924 г. другой сесіяй ЦВК БССР тэрміны беларусізацыі дзяржаўнага апарату, наркаматаў і ведамстваў аказаліся зусім рэальнымі і ў асноўным вытрымліваліся. Аналізуючы вышэй прыведзеныя лічбы, бачым, калі ў справе беларусізацыі апарату цэнтральныя (рэспубліканскія) установы спачатку прыкметна адставалі ад акруговых і раённых, дык ужо праз два гады яны выйшлі наперад, што можа разглядацца як доказ сур'ёзнага падыходу вышэйшых органаў улады і кіравання рэспублікі да вырашэння гэтай лёсавызначальнай для беларускай нацыі праблемы.

### *8) З улікам інтарэсаў нацыянальных меншасцяў*

Ідэолагі беларусізацыі, палітыкі добра разумелі, што яе поспех у значнай ступені будзе залежаць ад таго, як гэтую ідэю падтрымае некарэннае насельніцтва рэспублікі. А каб такая падтрымка была істотнай, шырокай, палітыку беларусізацыі належала праводзіць з абавязковым улікам інтарэсаў усіх этнічных супольнасцяў і асабліва тых, хто даўно выбраў Беларусь у якасці сваёй другой радзімы, перасягаў астатніх паводле колькасных параметраў. Да катэгорыі такіх у першую чаргу адносіліся рускія, яўрэі і палякі. Таму іх родным мовам, разам з беларускай, быў нададзены статус афіцыйных. Яны даволі шырока выкарыстоўваліся ў грамадскім жыцці: на нацыянальных мовах гэтых этнічных супольнасцяў працавалі розныя тыпы навучальных і культурных устаноў, выдаваліся кнігі, газеты і часопісы.

Максімальна выкарысталі атрыманыя ад палітыкі беларусізацыі магчымасці развіваць нацыянальную культуру яўрэі, праўда, пры абавязковай умове, што яна будзе насіць сацыялістычны характар, за аснову возьме ідыш, а не старажытнаяўрэйскую мову іўрыт. Пэўнае супраціўленне такой моўнай палітыцы назіралася, аднак пазіцыі ідыша няўхільна ўмацоўваліся, асабліва ў сферы адукацыі. Калі ў 1922 г. у яўрэйскіх школах БССР на ідышы навучалася 10,7 тыс. чалавек, дык у 1925/26 н.г. – 22,1 тыс. З улічаных школьным перапісам 1927 г. 213 яўрэйскіх школ толькі на ідышы працавалі 202, на ідышы і рускай мове – 7, на ідышы і беларускай мове – 4. З 1922 г. пачало функцыянаваць яўрэйскае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Настаўнікаў для школ рыхтавалі ў Віцебскім і Менскім яўрэйскіх педагагічных тэхнікумах, дашкольных работнікаў – у Гомельскім яўрэйскім педтэхнікуме. "У БССР выдаваўся штомесячны літаратурны часопіс "Штэрн" ("Зорка"), двухтыднёвы "Дэр юнгер арбетэр" ("Малады рабочы"), штодзённая газета "Кастрычнік", піянерскага газета "Дэр юнгер ленінец" ("Малады ленінец"), пры Дзяржаўнай бібліятэцы Беларусі імя Леніна працаваў яўрэйскі аддзел, фонды якога складалі 40000 тамоў, а ў Цэнтральнай гарадской яўрэйскай бібліятэцы Менска імя Пераца было 6928 кніг.

Палітыка беларусізацыі не стала прычынай якога-небудзь прыкметнага скарачэння асобаў яўрэйскай нацыянальнасці ў дзяржаўна-партыйным, гаспадарча-адміністрацыйным апараце, хаця яго належала мэтанакіравана папаўняць кадрамі тытульнай нацыі рэспублікі. Так, пры ўдзельнай вазе ў агульнай колькасці яе насельніцтва 8% на яўрэяў даводзілася 25% усіх адказных супрацоўнікаў адміністрацыйных устаноў, 49 – гаспадарчых, 42 – судовых. Вялікі працэнт на яўрэяў падаў сярод кіраўнічых работнікаў наркамата ўнутраных спраў БССР.

У гэты спрыяльны для нацыянальна-культурнага Адраджэння час нікому не прыходзіла ў галаў думка ўзгадаць, якую ў мінулым велізарную страту прычыніла беларускаму народу дзяржаўная палітыка паланізацыі. Атрымаўшы пэўныя палітычныя правы ў выніку ўтварэння БССР, яе савецкія і партыйныя органы зрабілі нямала ў сферы культуры і для польскай этнічнай групы. На яе роднай мове працавалі ўстановы культуры, выдавалі кнігі, газету "Орка" ("Варыва"), часопіс. У 1926/27 н.г. працавала больш за 100 польскіх школ і педагагічны тэхнікум. З 1935 г. пачаў сваю дзейнасць пры Інстытуце беларускай культуры польскі аддзел, які пазней рэарганізавалі ў сектар. З 1927 г. яго ўзначальваў ураджэнец г. Замосце (Польшча) Стафан Гельтман, які адначасова з'яўляўся рэктарам і загадчыкам кафедры эканомікі і палітыкі Камуністычнага універсітэта Беларусі ў Менску. Пры Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў дзейнічала польская секцыя, у складзе якой працавала нямала таленавітых майстроў мастацкага слова. Значнай падзеяй у культурным жыцці стала стварэнне ў 1929 г. на базе тэатральнага гуртка польскай моладзі пры клубе імя Розы Люксембург Польскага дзяржаўнага вандроўнага тэатра БССР. Асноўная база яго знаходзілася ў Чырвоным касцёле г. Менска. Усім пытанням дзейнасці гэтай этнічнай супольнасці вялікую ўвагу надавалі Польскае бюро пры ЦК КП(б)Б і яго філіялы пры Бабруйскім, Барысаўскім, Віцебскім, Калінінскім і Менскім акруговых камітэтах Беларусі. У той час на стаўленне ўладных структур БССР да культурнага жыцця польскай дыяспары ніколькі не адбівалася антынацыянальная палітыка Польшчы ў Заходняй Беларусі, у выніку чаго над яе карэнным насельніцтвам ізноў узнікла рэальная пагроза паланізацыі.

Палітыка беларусізацыі спрыяла актывізацыі нацыянальнай дзейнасці і такіх нешматлікіх этнічных груп рэспублікі, як латышская, літоўская, нямецкая і інш.

*(Працяг у наступным нымары.)*

# Сабраны першы мільён на рэстаўрацыю Лідскага замка



Як ужо паведамляла газета "Наша слова", у Лідзе з мэтай рэстаўрацыі Лідскага замка створаны пазабюджэтны фонд. Фонд мае свой разліковы рахунак **3732261280029 у філіяле № 413 АСБ "Беларусбанк" г. Ліды, код 696, атрымальнік Лідскі райвыканкам, УНН 500826128.** Грошы на гэты рахунак прымаюцца без камісійнага збору. На мінулым тыдні на рахунку ўжо сабралася 1220000 рублёў. Пры гэтым бухгалтэрыя райвыканкаму вядзе строгі ўлік паступіўшых грошай і гатовая ў любы момант зрабіць справаздачу.

Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" ў чарговы раз звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі ахвяраваць, хто колькі можа, на рэстаўрацыю найстарэйшага замка нашай краіны

# Барды разам з ТБМ

**28 верасня 2004 года грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" святкуе 15-гадовы юбілей рэгістрацыі (28.09.1989 г.) Сакратарыят ТБМ разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі плануе правесці ў гэты дзень Вечарыну беларускай бардаўскай песні ў Менску і іншых гарадах Беларусі.**

## Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў жніўні

Адамін Іван
Адамчык Валеры
Акіменка Антаніна
Аляксандровіч Валянціна
Антановіч Кастусь
Анціпенка Алесь
Арлоў Уладзімір
Бандарчык Уладзімір
Барадзіна Інга
Барысік Таццяна
Басава Стася
Бахметава Святлана
Блоцкая Ірына
Бранішэўская Света
Брыль Янка
Бубешка Антаніна
Бураўкін Генадзь
Бут-Гусаім Святлана
Вайноўскі Міхаіл
Валатоўскі Вячаслаў
Варапееў Уладзімір
Васіляўскайце Таццяна
Васько Яніна
Воўк Яўген
Вячорка Аляўціна
Галаўнёў Мікола
Галубовіч Ксенія
Гаплічнік Аксана
Гедрэвіч Валянціна
Глазырын Сяргей
Грудніцкая Тамара
Грудніцкі Рыгор
Грыгенча Вераніка
Грынюк Вольга
Грышуніна Наталля
Губскі Уладзімір
Гудкова Вольга
Дабравольскі Андрусь
Дакурна Генрых
Дарафяюк Міхаіл
Дзергачова Любоў
Дзешчыц Алена
Дз'ячкова Ларыса
Дзянісік Алена
Догелева Ала
Доўгі Уладзімер
Жаркоў Аляксандр
Жлабовіч Мікалай
Жукоўская Алеся
Зайка Аляксандр
Запрудскі Сяргей
Казак Алег
Казлянка Людміла
Кайдаў Алег
Камароўскі Мікола
Камянецкая Ірына
Кананенка Тамара
Кануннікава Ніна
Капціловіч Тамара
Карповіч Андрэй
Касаты Людвіг
Кірвель Юзаф
Князева Часлава
Колесень Ірына
Косінец Анатоль
Краснік Вольга
Краснова Наталля
Краўчанка Пётр
Круглая Марына
Куль Дзмітры
Кунцэвіч Святлана
Куплевіч Віталь
Курловіч Аляксандр
Кушаль Глафіра
Ляскоўскі Уладзіслаў
Макарэвіч Віталь
Мальдзіс Адам
Мандрык Наталля
Марачкіна Ірына
Марцынкевіч Андрэй
Марчанка Дзяніс
Мінчук Уладзімір
Мішкевіч Аліна
Мудроў Алег
Муха Барыс
Мясніковіч Юры
Навумец Яўген
Неткачава Валянціна
Нікіценка Мікалай
Оліна Эла
Папова Варвара
Патапчук Леанід
Піскун Людміла
Пушкін Алесь
Пшэннік Тамара
Пятровіч Ева
Раманчык Надзея
Раткевіч Лілея
Рачко Віктар
Рачко Таццяна
Рынкевіч В. У.
Рысявец Уладзімір
Савіцкая Ірына
Савосценка Ігар
Садаўнічы Дзмітры
Садоўская Анастасія
Сак Міхал
Самайлюк Т.
Саўко Марыя
Сека Васіль
Сідарэвіч Наталля
Сом Алена
Стамінок Наталля
Стаціўка Алесь
Сташкевіч Яна
Стукала Алена
Супрановіч Віталь
Сучкоў Іван
Сушчэўскі Алесь
Сцефановіч Здзіслаў
Трусаў Алег
Труханові Ларыса
Тумаш Генадзь
Туронак Людміла
Тэжык Ірына
Утачкіна Людміла
Федуковіч Васіль
Форнэль Кастусь
Царук Вольга
Цімашэвіч Уладзімір
Чабанава Таццяна
Чэчат Алесь
Шаранінская Ірына
Яцкоўская Святлана

# 10 ліпеня — юбілей спадара Міколы Галаўнёва

Рада ТБМ Ленінскага раёна г. Менска, Сакратарыят Таварыства, рэдкалегія "Нашага слова" шчыра віншуюць свайго старэйшага сябра, найактыўнейшага абаронцу роднага слова **Міколу Галаўнёва** са слаўным юбілеем — 70-годдзем ад дня народзінаў.

Выказваем глыбокую пашану за Вашу шматгадовую, самаадданую працу ў шэрагах змагароў за беларускую мову. Вашы здольнасці арганізатара і кіраўніка напоўніцу раскрыліся, калі Вы ачольвалі Раду Ленінскага раёна Менска. На Вашым жыццёвым шляху было шмат цяжкай, руціннай працы, якую Вы рабілі ціха і годна. Ваша рупнасць і клопат па адкрыцці і захаванні беларускіх класаў ў Менску натхнялі іншых на змаганне за навучанне дзяцей на роднай мове.

І сёння Вы застаецеся верным свайму жыццёваму крэда — змагацца за належнае месца мовы тытульнай нацыі ў грамадстве, за незалежную Беларусь пад бел-чырвона-белым сцягам.

Будзьце заўжды ўзорам абаронцы духоўнага скарбу нашага народу.

Зычым Вам моцы, аптымізму, непахіснай веры ў перамогу Беларушчыны.

# Сябра, трэба думаць пра падпіску на нашу газету!

Нягледзячы на намаганні сакратарыяту, разасланыя кіраўнікам рэгіянальных арганізацый гатовыя падпісныя квіткі, падпіска на трэці квартал паспяхова завалена. Было 962, стала 767 падпісчыкаў.

Тым не менш, некаторыя нашы сябры вартыя падзякі. Асабліва трэба адзначыць працу Гарадзенскай абласной арганізацыі, дзе падпісалі 52 газеты на другое паўгоддзе для вясковых бібліятэк, і сярэдніх школ. Мы выказваем удзячнасць фундатарам падпіскі: кіраўнікам фірмаў "Свідравіна" Сяргею Зылькову, "Эра" – Віктару Курсу, "Дзежац" – Леаніду Дзежцу, "Кантактэлектра" – Мікалаю Шчылінскаму і індывідуальнаму прадпрымальніку Юрыю Галанеўскаму.

У сваю чаргу, сакратарыят падпісаў 9 вясковых бібліятэк Зэльвеншчыны на "НС" на трэці квартал.

У Брэсцкай вобласці крыху паднялася падпіска ў Камянцы і Івацэвічах, на Віцебшчыне – у Вернедзвінску, Глыбокім і Наваполацку, у Менскай вобласці – у Чэрвенскім раёне, на Гомельшчыне – у Жыткавіцкім раёне, на Магілёўшчыне – у Чэрыкаве.

Сакратарыят ТБМ таксама падпісаў на газету некалькі вясковых бібліятэк Бабруйшчыны, што дазволіла захаваць тут колькасць падпіскі. Каб так, як у вышэй згаданых раёнах, працавалі ўсе сябры ТБМ, праблем з падпіскай не было б.

Нядаўна я бачыў кіраўнікоў Баранавіцкай і Слуцкай гарадскіх арганізацый, якія паабяцалі выправіць становішча. Спадзяюся, што так зробяць і ў Віцебску, Полацку, Горках і іншых буйных гарадах Беларусі.

Каб дапамагчы падпісантам, мы друкуем падпісны бланк на гэтыя месяцы з першага верасня.

Спадзяёмся на Вашу актыўнасць!

**Старшыня ТБМ**
**Алег Трусаў.**

*Калі за адраджэнне мовы,*
*чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

На 2004 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | X | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

Кошт: падпіскі **5120** руб., пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2004 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | X | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

 



# Янка Купала і Аляксандр Уласаў

## VII Міжнародныя Купалаўскія чытанні "Нараджэнне класіка" (17—18 чэрвеня 2004 г.)

Янка Купала і Аляксандр Уласаў – самабытныя постаці беларускай гісторыі і культуры, аднадумцы, яны абуджалі нацыянальную свядомасць беларусаў, стаялі ля вытокаў нацыянальнага адраджэння.

Творчыя стасункі паміж Янкам Купалам і Аляксандрам Уласавым склаліся яшчэ на пачатку XX стагоддзя, калі Янка Купала нараджаўся як нацыянальны паэт, як класік беларускай літаратуры. Паэт плённа супрацоўнічаў з газетай "Наша ніва", рэдактарам якой па тым часе быў Аляксандр Уласаў.

"Наша ніва" была адной з першых легальных беларускіх газет. Пачынаючы з пятага нумара рэдактарам газеты быў Аляксандр Уласаў. За дзевяць гадоў існавання яна адыграла вялікую ролю ва ўсведамленні беларусамі сябе як народа, а сваёй мовы і культуры як каштоўных вартасцяў. "Наша ніва" заклала падмурак дзяржаўнасці Беларусі. На пачатку мінулага стагоддзя яна паклікала да творчасці цэлую кагорту талентаў, сярод якіх былі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйла, Алаіза Пашкевіч, Ядвігін Ш., Гальяш Леўчык і многія іншыя.

У 1911 г. Янка Купала прысвяціў нашаніўскаму асяроддзю верш "Нашай ніве" з пазначэннем: *"Нашай ніве" са шчырым прыветам яе пяцілетняй ідэёвай працы для многамільённага беларускага народа".*

***Не загаснуць зоркі ў небе,***
***Покі неба будзе, —***
***Не загіне край забраны,***
***Покі будуць людзі.***

З 1908 да 1909 г. у "Нашай ніве" працаваў Янка Купала. Паэт займаўся выпраўленнем рукапісаў, перакладаў з іншых моў на беларускую, працаваў над карэктурай. быў экспедытарам газеты. У лісце да Л. М. Клейнбарта 1910 г., дасланым з Санкт-Пецярбургу, Янка Купала пісаў: *"Свободное время от занятий в библиотеке посвящал ред[акции] "Наша ніва" и пописывал стишки."*

З 1906 г. Янка Купала рэгулярна дасылаў свае вершы ў "Нашу ніву". У № 26 за жнівень 1907 г., у так званай "паштовай скрынцы" газеты, была змешчана парада Янку Купалу: *"Не ўжывайце беларускіх слоў мала вядомых, так званых правінцыялізмаў".* Першы Купалаўскі верш, які надрукавала газета, быў верш "Касцу" ў 1907 г. Верш надрукавалі на першай старонцы, як публікацыю-візітоўку. Увогуле, за час існавання газеты было надрукавана каля 160 Купалаўскіх вершаў, 5 паэм: "У Піліпаўку", "За што?", "Курган", "Бандароўна", "На Куццю", шмат публіцыстычных артыкулаў.

У 1910 – 1913 гг. паміж паэтам і рэдакцыяй вядзецца актыўная перапіска, на жаль даследчыкі маюць сёння толькі невялікую колькасць гэтых матэрыялаў, большасць з іх загінула разам з нашаніўскім архівам.

Захавалася некалькі лістоў паэта, дасланых у рэдакцыю, якія дазваляюць адчуць непаўторную атмасферу далёкага часу, тыя справы і праблемы, якія хвалявалі паэта. Напрыклад, у лісце ад 10 лістапада 1910 г. Янка Купала паведаміў, што па просьбе рэдакцыі падрыхтаваў і дасылае новыя творы для "Нашай нівы" і чарговага "Беларускага календара". У лісце 1911 г. паэт піша: *"Будзьце ласкавы высылаць на Акопы і на маё імя "Нашу ніву" рускімі і польскімі літарамі".*

Вядома, не заўсёды стасункі паэта і рэдакцыі былі роўнымі, не абыходзілася без складанасцяў і супярэчнасцяў. Быў час, калі ў рэдакцыі паэта *"недооценивали"*, калі і паэта не задавальняла недаравальная маруднасць газеты ў публікацыі абвестак пра выхад яго кніг. У лісце ад 18 красавіка 1913 г., дасланым з Санкт-Пецярбургу, Я. Купала выказвае сваё абурэнне, што адсутнічае абвестка пра яго зборнік "Шляхам жыцця".

*"Шаноўны пане рэдактар!*

*Цікава дужа вядзецца ў Вашай газеце аддзел беларускай бібліяграфіі. У апошнім, 15 нумары «Нашай нівы» ў пашт<овай> скрынцы надрукавана: «За студзень і люты нічога не выйшла, у маі выйдзе зб. вершаў М. Багдановіча, а можа, і яшчэ штo-колечы, калі збярэмся з грашыма». Што гэта — жарт першаапрэльскі ці што іншае?.. Напомню Вам, што ў студні выйшла «М<аладая> Беларусь», 2-і сшытак, а ў красавіку — мая кніжка «Шляхам жыцця», каторую ў Вашу рэдакцыю паслаў. Аб гэтых кніжках Вы нават не рачылі надрукаваць у сваёй газеце абвестак, хоць абвестка «Н<ашай> н<івы>» надрукавана ў 2-м сш<ытку> «М<аладой> Б<еларусі>». Мне здаецца, што за 5 год майго супрацоўніцтва я не заслужыў на тое, каб так беззасценчыва ігнарыраваць маю нававыйшаўшую кнігу, як гэта Вы зрабілі ў пашт<овай> скрынцы сваёй газеты.*

*З паважаннем І. Купала"*

У лісце ад 17 ліпеня 1913 г., дасланым з Акопаў, Янка Купала адзначае: *"У № 28 «Н. н.» за гэты год памылкова надрукавана шостая (лічачы з гары) чатырохрадковая зваротка верша Я. Купалы «Навука»*. Далей паэт просіць надрукаваць правільны варыянт.

З 1914 г. Янка Купала становіцца рэдактарам "Нашай нівы" і кіруе газетай да канца – да восені 1915 г. Аляксандр Уласаў успамінае: *"Афіцыянальна рэдактарства «Нашай Нівы» я перадаў Я. Купале.*

*Купала, кончыўшы вячэр-нія курсы сярэдняй школы ў Пецярбургу пад апекай дабрэйшай ду-шы — беларуса Эпімаха-Шыпілы, настолькі ўжо адыліфаваўся, што мы яго з «дзядзькоў» павысілі ў рэдакцыйныя «палкоўнікі». Ужо была выраблена і мова газетная, машына рэдакцыйная была, як кажуць цяпер, «стабілізіравана».*

У лісце да Л. М. Клейнбарта ад 23 лістапада 1927 г., дасланым з Менска, Янка Купала пісаў: *"В 1913 году оставил Петербург и переехал снова в Вильну, где впоследствии занял место официального и фактического редактора "Нашей нівы" вместо А. Н. Власова, который в это время переехал для культурной работы в Минск».*

У музеі Янкі Купалы захоўваецца дакумент "Паведамленне Віленскага губернатара ў Галоўнае ўпраўленне па справах друку" Вільні аб перадачы Аляксандрам Уласавым рэдактарства мешчаніну Івану Луцэвічу.

У лісце да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 28 верасня 1914 г., дасланым з Вільні, Янка Купала пісаў: *"Усю душу і ўсе сілы цяпер укладаю ў "Нашу ніву", каторую стараюся паставіць на сіле магчымасці на належную вышыню".* Янка Купала глыбока ўсведамляў сваю асабістую адказнасць за лёс, характар газеты, за беларускую справу ўвогуле. Вельмі ашчадна, уважліва Купала ставіўся да маладых талентаў, падтрымліваў і заахвочваў іх.

Аляксандр Уласаў пакінуў унікальныя мемуары "Дні жыцця", у адным з раздзелаў якіх "Менск-беларускі 1912 – 1914 гг." згадваецца Янка Купала. У 1913 г. у Радашковічах адбылася адна з першых пастановак Купалаўскай п'есы "Паўлінка", якую ажыццявілі аматарская тэатральная трупа і хор менскай моладзі. Аляксандр Уласаў пакінуў успаміны: *"...Трупа і хор выязджалі ў Радашковічы і ставілі там «Паўлінку», якая там паказалася на свет другі раз, а першы раз была ў Вільні.*

*У Радашковічах быў трыумф.*

*Моладзь шла са спевам, пад дэрыжорствам Арк. Смоліча, узяўшыся пад рукі фалангай ва ўсю шырыню шашы, пекным летнім папалуднем, дзівячы птушак па прыдарожным маляўнічым лесе.*

*Такім ходам, зрабіўшы сенсацыю, прайшлі праз усё мястэчка проста да мяне ў Мігаўку, дзе перавярнулі ўсё дагары нагамі ў вясёлай суматосе.*

*Помню, [што] на спектакль прыехаў сам аўтар Янка Купала. Быў Ядвігін Ш. (Лявіцкі). Але найлепшы нумар было тое, што з'явіліся тыя жывыя шляхты-арыгіналы, з каторых наш Купала спісаў тыпаў п'есы. Мы баяліся скандалу, але, відаць, яны ўрэзалі добра муху па старасвецкаму звычаю, бо толькі здужалі барматаць нешта незразумелае.*

*Мясцовае грамадства прыняло трупу з энтузіязмам, зрабілася цэлае «народное волненне».*

З эпісталярнай спадчыны Янкі Купалы захаваліся некалькі цікавых лістоў, дзе яшчэ згадваецца Аляксандр Уласаў. Гэта датычыцца захаванню Купалавых твораў.

У лісце да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 13 красавіка 1919 г., дасланым з Мінска, Янка Купала пісаў: *"У 1916 г. я пакінуў пяць скрынь з кнігамі, рукапісамі і іншымі пісьменнымі матэрыяламі ў беларускай кнігарні пад апеку Уласава і Лявіцкага".*

У лісце да Л. М. Клейнбарта ад 21 верасня 1928 г., дасланым з Кіславодска, Янка Купала між іншым адзначыў: *"Громадная часть написанного мною пропала... Потом я массу посылал в Вильно в «Нашу ніву» револ[юционных] стихов, которых по цензурн[ым] тогдашним условиям печатать нельзя было. И они где-то с архивом «Нашей нівы» пропали... Часть этих материалов я нашёл у очень рассеянного человека в Минске – у Власова (известный белор[усский] деятель)".*

Восенню 1939 г. Аляксандр Уласаў быў арыштаваны органамі НКУС у Маладзечна. Класікі беларускай літаратуры, былыя супрацоўнікі "Нашай нівы", Янка Купала, Якуб Колас і Змітрок Бядуля зрабілі спробу ўратаваць свайго былога рэдактара Аляксандра Уласава. Крок гэты быў вельмі значны, таму што аўтары, вядома, добра разумелі, чым рызыкавалі. Безумоўна, разумеў гэта і Аляксандр Уласаў. Пісьменнікі звярнуліся да першага сакратара ЦК КП (б) Беларусі П. К Панамарэнкі з просьбай перагледзець пытанне пра лёс незаконна арыштаванага А. Уласава.

Тры самыя вядомыя і ўплывовыя на той час беларускія пісьменнікі выступілі ў абарону чалавека, які калісьці даў ім "шлях у жыццё". Ліст напісаны рукой Якуба Коласа па-руску на звычайным аркушы паперы, падпісалі яго таксама Янка Купала і Змітрок Бядуля.

Дакумент сам гаворыць за сябе:

*"Секретарю Центрального Комитета Коммунистической партии большевиков Белоруссии тов. Пономаренко*

*В сентябре месяце 1939 г. органами НКВД был арестован в г. Молодечно Александр Никитич Власов. С именем Власова неразрывно связана организация первых белорусских газет — «Наша доля» и «Наша ніва». В «Нашей доле» он был ближайшим и одним из руководящих сотрудников. После того как «Наша доля» была закрыта (в 1906 г.), а ее редактор был осужден к заключению в крепость, стала выходить другая белорусская газета «Наша ніва», редактором которой был Власов. Мы также принимали активное участие в названных газетах как их сотрудники, помещая свои статьи и стихи, протестуя в них против самодержавного произвола, против социального и национального угнетения белорусского народа. Мы хорошо знаем Власова как человека, преданного трудовому народу, как культурного работника и собирателя разрозненной белорусской интеллигенции с тем, чтобы поставить ее на службу народа. Против русской культуры Власов никогда не относился отрицательно и в своей деятельности не ставил вопросов об отрыве белорусского народа от народа русского. В настоящее время Власов уже старик, и было бы несправедливо для него, если бы он на склоне своих лет не принял участия в строительстве новой, социалистической культуры народа, за который он боролся и много отдал лет своей жизни. Поэтому мы просим Вас, тов. Пономаренко, пересмотреть вопрос о Власове и отнестись снисходительно к его ошибкам, если они у него были, и дать ему возможность реабилитировать себя на советской работе.*

*Якуб Колас*
*Янка Купала*
*Змитрок Бядуля*
*26.IV.1940 г."*

Магчыма, вынікам гэтага звароту стаў адносна мяккі прыгавор Аляксандру Уласаву. 29 лістапада 1940 г. была прынятая пастанова НКУС СССР, паводле якой Уласаў быў засуджаны на пяць гадоў і накіраваны ў Марыінскі лагер у Навасібірскую вобласць. 5 гадоў лагеру – гэта найменшы тэрмін, які атрымлівалі "беларускія буржуазныя нацыяналісты".

Ёсць меркаванне, што, калі Аляксандра Уласава разам з іншымі вязнямі везлі ў Сібір, то ён змог перадаць запіску. *"Яму [А. Уласаву] удалося перадаць на волю цыдулку да Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ці дойдзе? Ці хоць як паспрыяюць яму колішнія яго паплечнікі? Хоць бы якой цёплай вопраткі парупіліся. Вязуць жа яго ў Сібір, на зіму ў адным летне-восеньскім гарнітуры. Перад Менскам сэрца затахкала часцей: ці стрэне яго хто тут? ...Янка Купала выведаў, калі будзе ісці цягнік з вязнямі праз Менск, і прынёс колішняму свайму апекуну і паплечніку кажух. Уласаў быў удзячны Купалу. Той кажух грэў не толькі цела, але і душу, не адзін раз аблегчыў ягонае паднявольнае жыццё."* Але і кажух Аляксандра Уласава не ўратаваў. Сталы век, перанесеныя ў турме пакуты і сібірская зіма не далі Уласаву перажыць і першы год за калючым дротам. Паводле афіцыйных звестак, 11 сакавіка 1941 г. А. Уласаў памёр.

У 1992 г. музею Янкі Купалы з КДБ РБ былі перададзены архіўныя дакументы: польскі пашпарт А. Уласава (дзе, дарэчы, дата нараджэння – 10 жніўня 1874 г., а не 16(28) жніўня 1874 г., як у шматлікіх даведніках), фотаздымак А. Уласава 30-х гадоў, заяву А. Уласава кіраўніку жыллёвага Упраўлення ў Маладзечна ад 11.09.1939 г., ліст А. Уласава да А. Луцкевіча ад 12.09.1939 г., апраўдальныя характарыстыкі для рэабілітацыі А. Уласава, дадзеныя жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Луцэвіч ад 24.08.58 г. і членам КПЗБ М. Арэхвам ад 29.08.58 г.

Цікавай з'яўляецца заява-характарыстыка Уладзіславы Луцэвіч: *"Я, Луцевич Владислава Францевна, знаю гр-на Власова Александра Никитича с 1908 года.*

*...Власов был инициатором многих молодежных затей, популяризатором всяческих начинаний. По его инициативе были организованы библиотечки, драмкружки, литературные вечера.*

*Александр Никитич Власов отличался простотой, остроумием, гуманностью."*

Янка Купала і Аляксандр Уласаў гуртавалі вакол сябе таленавітую моладзь, павышалі ўзровень яе нацыянальнай свядомасці. Яны заўсёды былі ў цэнтры асяродку беларускай культуры.

Янка Купала ў вершы "Моладзі" (1914 г.) піша:

***"Схамянайся ж ты,***
***моладзь арліна!***
***Ў бок другі віхры веяць прымусь,***
***Бяры светач, ідзі за судзьбінай,***
***Ідзі з словам святым: Беларусь!"***

Гэтыя Купалаўскія радкі сваім зместам і пафасам сугучныя са зваротам Аляксандра Уласава да беларускай моладзі.

*"Хочацца ўспомніць для навучання моладзі, хаця ідэі, жыццё народу не стаіць на месцы. Пакаленні змяняюць пакаленні.*

*Вечны толькі праўда, пекнасць, ісціна, да каторай цягнуцца, як да сонца, людскія масы. Ёсць нейкі ланцуг, працягнуты з пакалення ў пакаленне. Звенні яго неразрыўныя. Гэта змушае мяне ўзяцца за пяро. Мы таксама скавалі колькі такіх звенняў некалі."*

*"І як нашае пакаленне старалася вызваляць і дух народу з рабскае залежнасці ад чужынцаў, так і вы, маладыя, мусіце гэта рабіць і стварыць новы перыяд, які б адыграў не меншую ролю ў беларускім рэнесансе, як перыяд нашаніўскі."*

***Дзіяна Філіповіч,***
***старшы навуковы супрацоўнік***
***Дзяржаўнага літаратурнага***
***музея Янкі Купалы.***

 

# На шляху з Грэкаў у Варагі

Калі мы знаходзімся ў вёсцы Цінкаўцы, то пачуваемся, як дома. Таму што тут, у Сяргея Панізьніка - творчы прытулак – "Хата бабкі Параскі". Пра гэта паведамляе і надпіс на валуне. 25 гадоў назад ён набыў асуджаную на згібенне хаціну, дзе сапраўды жыла бабка Параска, і вось нам усім, калі ласка, музей-сядзіба – заўсёды гатовая прыняць не толькі гаспадара, а і вучняў навакольных вёсак, сяброў Клуба цікавых сустрэч пры Верхнядзвінскай раённай бібіятэцы, супрацоўнікаў Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Верхнядзвінскага раёна...

***Дом бабкі Параскі...***
***Ключы – у трысці.***
***Дзвіна – наўзамен засмучэнню.***
***Не кожнаму сёння па сіле плысці***
***Уверх па цячэнню. –***

Цытуем радкі Панізьніка, напісаныя ў літаратурна-этнаграфічным музеі-сядзібе. А тут яшчэ адна важная дата: споўнілася пяць гадоў, як рашэннем упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкаму гэтаму асяродку прысвоена званне "Народны музей" – за дасягненні па набыцці і захаванні гістарычна-культурнай спадчыны.

Цяпер у гэтай хатцы бабкі Параскі літаратурна-этнаграфічны музей-сядзіба С. Панізьніка, якой спаўняецца сёлета – 25 гадоў. Сяргей Сцяпанавіч аб'ездзіў кожны хутарок, апытаў сотні людзей, каб сабраць і пакінуць нашчадкам каштоўныя экспанаты гісторыі. У сялянскай хацінцы знаходзіцца прытулак старажытнасцяў і сучасных знаходак. Толькі тут можна ўбачыць дзесяткі відаў старадаўніх сялянскіх прылад і рэчаў хатняга ўжытку, якія суседнічаюць з фотаздымкамі і кнігамі навейшай гісторыі. "Гэта хатка – мой самы высокі Парнас" – запэўнівае яе стваральнік.

На будыніне, дзе звычайна прыбіваецца шыльдачка з назвай вуліцы, на жалезнай палосцы пазначана: "Шлях з Грэкаў у Варагі". Тут спыняліся многія пісьменнікі і грамадскія дзеячы Беларусі і замежжа (захоўваюцца іх аўтографы ў кнізе наведнікаў). Тут Сяргеем Панізьнікам напісаны 13 зборнікаў вершаў, некалькі кніг аб Асвейскай трагедыі. Ганаровы грамадзянін пасёлка Асвея ўвекавечыў лёс многіх ахвярнікаў, унёс значны ўклад ў культурную скарбонку раёна. Аб гэтым гаварылі на юбілейнай сустрэчы начальнік аддзела культуры Н. К. Пагаранская, начальнік аддзела інфармацыі Э.В. Аржанік, былы вязень Саласпілскага канцлагера А. Бубала... Увагай і цеплынёй акружаюць землякі сядзібу і яго гаспадара.

Тут, у Цінкаўцах, як зазначае паэт Антон Бубала. –

***Усё спрадвечнае, як свет.***
***Усё, як песня матчына.***
***Усё грунтоўна і як след***
***Слядком вякоў пазначана.***

***Ніна Глацёнак,*** загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі Цэнтральнай раённай бібліятэкі.

***Людміла Гагалінская,*** кіраўнік Клуба цікавых сустрэч. Віцебская вобласць.



**На здымку з архіву "Хаты бабкі Параскі": Вольга Іпатава, Ягор Фядзюшын на шляху з Грэкаў у Варагі. 2003 г.**

## "НА ШЛЯХУ З ГРЭКАЎ У ВАРАГІ"

*Вершы С. Панізніка*

Як асмялелі шпачаняты –
цікаўцы:
Паспелі гронкі – і няма нідзе!
Заселеныя выраямі: Цінкаўцы
Мацуюць еднасць птушак
і людзей.

З зямлі
Усходзяць крылы для ўзнёсласці
І думае калгасны старшыня:
Калі ж работа – вечная!
У вёсны іўсці?
Дзе юная пяройме цішыня?
А тут – касьба. А тут – жніво,
І лета бабіна...
Не выветрыцца водар з палына!
Ідзе жыццё,
палёгкай не разбаўлена.
Імчацца годы і цячэ Дзвіна:
Шпарчэй – ці напачатку,
Ці ў канцы?
Ды пульс ракі нялёгка вывярацы...
І будзе родных птушак вёска
Цінкаўцы
Штогод праводзіць,
Па вясне вяртаць.

* * *

Дом бабкі Параскі...
Ключы ў трысці
Дзвіна – наўзамен засмучэнню:
Ня кожнаму сёння па сіле плысці
Ўверх па цячэнню

У Дрысу, Сар'янку
Цячэ Палата...
Вы служыце іх асвячэнню.
Планіду ж вядзе не вада – правата:
"Уверх па цячэнню!"

Дзвіной падпярэзаны праца і лёс.
Зноў бераг заве на вячэрню...
Хачу, каб ганок жыццядайны
Вам нёс
"Уверх па цячэнню".

Наш Полацак стольны
чакае даўно
Князёўны руплівую светласць.
Уверх па цячэнню!
Трымайце стырно
І кнігі Скарынавай ветразь!

Фелікс Шкірманкоў

## БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

Я нічога не маю супраць
Рускага слова,
Супраць добрых, сяброўскіх
Адносін, але
Калі гэтым сяброўствам
Мая родная мова
Зневажаецца тут, на Радзіме,
Як мне
Даць адпор бессаромнаму
Гвалту-прымусу,
Каб багацце культуры
Сваёй захаваць,
Каб не знікнуць у гэтых
Цісках беларусу?
Знаю сродак надзейны –
Не трэба маўчаць!
Я нічога не маю супраць
Рускага слова,
Супраць мовы замежнай,
Але не знайсці
Іншай мовы, каб нам
Сабой замяніла
Беларускую мову
Ў нашым жыцці.
Каб яна была лепшай,
Чым матчына мова,
Каб яна нас вучыла
Радзіму любіць.
Дык шануйма скарбонку
КУПАЛАВА слова,
Толькі з ёй БЕЛАРУСЬ
У вяках
Будзе жыць!

*г. Слаўгарад.*

Яўген Гучок

## Наіўна-сур'ёзнае

Што наш беларускі цягнік
Адыйшоў,
Не веру я гэтай
Вестцы;
Ён з рэйкамі разам
Уніз пайшоў –
Па восі ў глебе
Стаіць на месцы.

А выйшла такое
Толькі таму,
Што перагруз
Атрымаўся;
Страх і хцівасць,
Зайздрасць, здраду йману
Кожны ўцягнуць
У яго стараўся.

Дык, можа, падумаем,
Людцы мае?!
Дык, можа, наважымся,
Мілыя?!. –
Разгрузім цягнік
Ад брыдоты тае...
І разам,
Як ён,
Так і мы, -
Адчуем сябе –
Нібы з крыламі.

# Ідуць пісьменнікі да Быкава...

На вушацкую зямлю, дзе ў вёсцы Бычкі адноўленая сядзіба выдатнага беларускага пісьменніка Васіля Быкава, усё часцей прыязджаюць школьнікі і рабочыя, настаўнікі і ўрачы. Аб гэтым сведчаць першыя запісы ў кнізе наведвальнікаў.

21 ліпеня з мясцовымі жыхарамі тут сустрэліся пісьменнікі з розных рэгіёнаў Беларусі, а экскурсію па сядзібе правяла Антаніна Быкава, якая пакуль з'яўляецца адзіным і яшчэ няштатным супрацоўнікам музея. У той жа дзень у гарадскім пасёлку Вушачы пісьменніцы Вольга Іпатава, Марыя Баравік і Галіна Варатынская, а таксама бард Марыя Новікава правялі творчую сустрэчу з мясцовай інтэлігенцыяй. Гучалі вершы лірычныя і эпічныя, філасофскія і жартоўныя. Ішла зацікаўленая гаворка аб гармоніі ў Сусвеце і соцыюме, аб ролі жанчыны-творцы ў стабілізацыі грамадства, аб свабодзе творчасці і грамадзянскай пазіцыі пісьменніка і творцы, аб новых незалежных газетах і часопісах, такіх як "Наша слова", "Новы час", "Дзеяслоў", якія ўсё больш паспяхова канкуруюць з афіцыйнымі, "холдынгавымі" выданнямі. Вольга Іпатава падкрэсліла, што сёння надзвычай важна не дазволіць духоўнага заняпаду грамадства і адказала на шматлікія пытанні, асабліва ж падзякавала сястры Васіля Быкава Валянціне Уладзіміраўне, якая брала ўдзел ў сустрэчы і падзялілася ўспамінамі пра брата.

Дыскусія і творчыя размовы працягваліся і за кубачкам гарбаты, дзе свае песні праспяваў мясцовы мастак Міхась Казіцкі.

***Наш кар.***

## *Новыя кнігі на сядзібе ТБМ*

***Шэраг новых кніжак ды часопісаў па гісторыі, архітэктуры, літаратуры, а таксама кніжкі для дзетак з'явіліся ў менскай сядзібе ТБМ.***

***Тут жа можна знайсці відэа, аўдыё, CD з добрай беларускай музыкай, майкі, значкі, календары.***

***Прыходзьце з панядзелка па пятніцу на Румянцава, 13 з 11-й да 17-й гадзіны. Тэл. 8-029-707-40-01.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 2. 08. 2004 г. Замова № 1565.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1280 руб., 3 мес.- 3840руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)